АСОБА

# Віктар КАЗЬКО: «Пра сыход мне рана думаць. Яшчэ пажывём!»

*У далекаватых ад сталіцы Дудутках, не зважаючы на халаднаватае надвор'е, расцвілі сады. Над бязлюднай вуліцай насіліся ў вясновых клопатах шпакі. Музейны вятрак на пагорку дарэмна прыветліва махаў крыламі – на аўтастаянках каля музея і двух корчмаў было пуста. На зацішным прылясным пагорку я з цяжкасцю адшукаў невялікі двухпавярховы дамок Віктара КАЗЬКО, які схаваўся ў вёсцы не толькі ад пандэміі, але і ад уласнага юбілею – 23 красавіка вядомаму пісьменніку споўнілася 80.*

*«Ад «Народнай Волі» не схаваешся», – адчыняючы дзверы, жартуе гаспадар, заварвае каву, і мы сядаем за стол пры запаленым каміне.*



**– Віктар Апанасавіч, Дудуткі – гістарычнае паселішча, якое згадваецца яшчэ ў «Слове пра паход Ігаравы», дзе гаворыцца, як полацкі князь Усяслаў Чарадзей «скокнуў ваўком хутка ад Нямігі да Дудутак». Так супала, што ў Мінску вы жывяце якраз на Нямізе. Дык вы трапілі сюды следам за Чарадзеем?**

– У мяне і думкі не было раўняцца з князем (*смяецца*). Было так: я меў хатку на Палессі, у цудоўным запаведным месцы пры сутоку Случы і Прыпяці. Вакол 18 азёр, рэліктавыя бары. Але адлегласць ад Мінска – 220 кіламетраў, не наездзішся. Пачаў я шукаць нейкае прыстанішча бліжэй да сталіцы. І Яўген Будзінас, які ў Дудутках збудаваў цэлы музейны комплекс, пачаў клікаць мяне сюды – ён марыў сабраць тут мастакоў, пісьменнікаў, адным словам, творчых людзей. І ўгаварыў. У 1991 годзе я закончыў будоўлю. З драўнінай дапамаглі сябры-палешукі (лес тады недарагі быў). У той час у мяне якраз выйшаў двухтомнік, дык ганарару акурат і хапіла.

**– Ведаю, што вы апантаны рыбак. Пціч у гэтым сэнсе замяніла вам Прыпяць і Случ?**

– Раней і ў Пцічы рыба вадзілася. Цяпер амаль прапала. Але вада ў Пцічы – незвычайная, яна цячэ па тарфяніках і добра фільтруецца. Думаю, што ма́е лекавыя ўласцівасці, скажам, на свой псарыяз я за лета проста забываюся. На рыбалку я ўжо забыўся, затое тут надзвычай грыбныя мясціны – у добры год я па 200 баравікоў браў! Мне ў Дудутках вельмі падабаецца, я тут не ад каранавіруса хаваюся, гэта проста мой лад жыцця.

**– Калі вы сказалі, што змаглі за ганарар пабудаваць дом, мне прыгадаўся роспачны ліст Івана Шамякіна, адрасаваны ў 1996 годзе кіраўніку краіны: «Раней я за свае зберажэнні мог купіць некалькі «Волг», а цяпер – пару качаноў капусты». Трэба прызнаць, што Іван Пятровіч быў вялікі працаўнік, ад празмернага пісання ў яго не гнуліся пальцы на правай руцэ. За савецкім часам таксама шмат друкуючыся, вы адчувалі сябе заможным чалавекам?**

– Да Шамякіна мне было далёка, але так, і мяне ахвотна друкавалі ў Маскве. Скажам, часопіс «Дружба народов» выдаў маю кнігу накладам 400.000 асобнікаў, выдавецтва «Молодая гвардия» – 100.000. Такія наклады аплачваліся – дай Бог! Ну і ў кіно ганарары былі салідныя. Паводле маіх кніг былі зняты фільмы «Паводка» (двухсерыйны), «Сад», «Чорны бусел». Не сказаць, каб я раскашаваў, але грошы вадзіліся. Праўда, яны мяне ніколі не цікавілі. Жонка і тая неаднойчы здзіўлялася: «Чаму ў цябе кішэнных грошай няма?» А навошта яны мне? Ёсць на цыгарэты і на паўлітра, каб з хлопцамі пасядзець, і дастаткова. Увогуле я амбіцыйным ніколі не быў – не лічыў ні выдадзеных кніжак, ні заробленых грошай. Для шчасця чалавеку не грошы патрэбны. Ён павінен жыць з адчуваннем, што не мае ні на кога крыўды, не хоча нікому помсціць. Так жыла мая бабуля Усцім'я, і пражыла 112 гадоў.

**– Вы згадалі пра выдадзеныя ў Маскве кнігі. А я нядаўна ў лістах расійскага кампазітара Мадэста Мусаргскага зачапіўся за словы: «Католические оперы Монюшко представляют для меня плод, равный рвотному камню». І далей пра тое, што музычныя творы накшталт «Галькі» (Манюшкава опера) «испростоквашили» музыку. Такое вось стаўленне да аўтара першай беларускай оперы Станіслава Манюшкі з боку «старэйшага брата». А як ставіліся ў маскоўскіх рэдакцыях да вас?**

– Расійцы лічаць беларусаў малодшымі братамі, а насамрэч старэйшы брат – беларус. Вядомы антраполаг, доктар біялагічных навук Аляксей Мікуліч гэта даўно і абгрунтавана даказаў (дарэчы, атрымаў за гэта Дзяржаўную прэмію Беларусі). Імперскае мысленне ў расійцаў – ад вялікай тэрыторыі, ад Смаленска да Уладзівастока. Але Сібір ці які-небудзь Прыморскі край – гістарычна зусім не Расія… А як да беларускіх пісьменнікаў ставіліся ў Маскве ў савецкія часы? Трэба аддаць належнае – там вельмі цанілі Васіля Быкава, Янку Брыля, Алеся Адамовіча, Міхася Стральцова. Помню, з якой прыхільнасцю прынялі і мяне ў «Новом мире», куды я прынёс аповесць «Високосный год». Хоць вакол часопіса вілося столькі «геніяў», на якіх я наглядзеўся яшчэ ў Літінстытуце! 150 іх было на курсе, і дзе яны потым падзеліся? Я аднойчы чуў такі дыялог. Сябру-празаіку крытык кажа: «Ты цяпер першы пісьменнік». А той: «Я не першы, я другі». – «А хто тады першы?» – «А першых многа».

**– За сваю творчасць вы атрымалі, калі не памыляюся, пяць прэмій: Ленінскага камсамола, Дзяржпрэмію імя Якуба Коласа, «Гліняны Вялес», «Залаты апостраф» і прэмію Ежы Гедройца. Якая для вас найдаражэйшая (не ў грашовым вымярэнні)?**

– Вы не назвалі яшчэ адну прэмію – імя Мікалая Астроўскага, якую я атрымаў ад выдавецтва «Молодая гвардия». Відаць, яна, бо гэта азначала прызнанне ў Маскве. Калі ўжо гаварыць пра гэта, то згадаю, як мяне вылучалі на Дзяржпрэмію СССР за раман «Хроніка дзетдомаўскага саду». Вылучыла тая ж «Дружба народов». Заставалася фармальнасць – наш Саюз пісьменнікаў мусіў пацвердзіць вылучэнне. І вось – засядалаўка, і як схапіліся між сабой Іван Чыгрынаў і Рыгор Барадулін!

**– Іх таксама вылучалі?**

– Чуткі такія хадзілі. Хоць тагачасны першы сакратар СП Ніл Гілевіч сказаў мне, што мая кандыдатура праходзіць. І вось яны сварацца, ажно мне стала няёмка. Я ўстаў, зняў сваю кандыдатуру і пайшоў. Гілевіч выбег за мной: «Віктар Апанасавіч, што вы нарабілі? Беларусь ізноў застанецца без саюзнай прэміі!» Так потым і сталася – яе атрымаў нехта з прыбалтаў. А мы пайшлі з Алесем Жуком, узялі чарку, адзначылі маё невылучэнне. Мяне потым папракалі ў той жа «Дружбе народов»: чаго ты там у Мінску сядзіш, не круцішся?! А маскоўскі крытык Леў Анінскі тады ж пісаў, што два беларускія пісьменнікі варты любой прэміі – Святлана Алексіевіч і Казько. А я лічыў, што яшчэ лепшыя творы напішу і прэміі ад мяне не ўцякуць.

**– Дык вам і сёння пішацца – «Дзеяслоў» нядаўна надрукаваў новую аповесць «Нашчадкі казённага лёсу».**

– Гэта са старога цыкла, задуманага яшчэ паўстагоддзя таму. Пра наша дзетдомаўскае, пэтэвушніцкае пакаленне. З 20 маіх хойніцкіх дзетдомаўцаў засталіся толькі двое – я і Толік Бельскі. Мы з ім разам на кемераўскіх шахтах працавалі. І так нам у Беларусь хацелася, што гатовы былі пешкі ісці, кленчыць на кожным кіламетры і зямлю цалаваць...

**– Тэмай №1 у цэлым свеце ўжо другі месяц застаецца пандэмія. Як вы лічыце, ці правільна абраны ў нас спосаб змагання з каранавірусным нашэсцем?**

– Каранавірус – гэта апошняя перасцярога чалавецтву. Цывілізацыя зайшла ў тупік, і сёння мы павінны навучыцца адказнасці, якой за апошнія дзесяцігоддзі амаль пазбавіліся. Хацелася б верыць, што пасля пандэміі мы звернем увагу на таго, хто побач з намі, не будзем па-ранейшаму толькі хапаць і ха́паць. А ці правільны спосаб… Многае з таго, што робіцца ў Беларусі, робіцца без цара ў галаве. Скажам, у спорце – футбалісты і хакеісты плачуць, а выходзяць гуляць. А які можа быць парад на 9 Мая?! Я не бачу ў ім ніякага сэнсу. Апошніх ветэранаў выведзем на смерць. На гэтыя грошы можна было б забяспечыць ім прыстойнае жыццё, хоць бы пахаваць з адпаведнай пашанай...

**– Думаю, што парад усё ж будзе адменены. У гэтай сітуацыі выклікае цікавасць яшчэ і той факт, што падтрымка Беларусі ідзе пераважна з Захаду, а «саюзная» Расія закрылася каранцiннай мяжой.**

– Мы звыклі жыць на падачках, на ласка́вым хлебе з Расіі. Некалі ў Беларусі было гэтак званае старцаванне. Старцы хадзілі ад вёскі да вёскі – жабравалі, але неслі і песні (хадзілі з лерамі), і навіны. Дарэчы, лічылася вялікім грахом не пусціць старца ў хату пераначаваць, не даць яму кавалка хлеба. Але ў тых старцаў была свая годнасць, яны свае патрэбы ведалі. У нас жа патрэбы непамерныя, а старцавання мы так і не пазбавіліся.

**– Падобным «старцам» выглядае хіба і прыўладны Саюз пісьменнікаў Беларусі. Нядаўна «Народная Воля» паведамляла, якія датацыі атрымлівае ён з бюджэту, – у памеры 160–170 тысяч долараў штогод. І так цягам 14 гадоў. А вынік дзе? Дзе выдатныя кнігі, дзе вядомыя ў свеце імёны?**

– Іх у тым саюзе папросту няма. Калі таго ж Шамякіна туды цягнулі, ён запатрабаваў спіс членаў. Прачытаў і сказаў: ды тут жа пісьменнікаў няма, чаго я там не бачыў? То якіх вынікаў можна чакаць? Нездарма найбольш таленавітыя пісьменнікі, як толькі дасягаюць пенсіённага ўзросту, пакідаюць арганізацыю Чаргінца і пераходзяць у нашу. Скажам, так зрабілі Раіса Баравікова, Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч…

**– Дык навошта дзяржава фінансуе арганізацыю, толку ад якой – як з казла малака?**

– Гэта для мяне таксама пытанне. Трэба прызнаць, што Чаргінец умее дамаўляцца з чыноўнікамі, ён увогуле даволі прабіўны дзеяч. Памятаю, як ён прабіваў на «Беларусьфільме» экранізацыю сваёй кнігі «Вам – задание». А я – галоўны рэдактар кінастудыі. Сцэнарый некалькі разоў бракаваўся на мастацкім савеце, але Чаргінец не супакойваўся. Аднойчы ён зацягнуў мяне на нейкую кватэру, частаваў. Быў яшчэ нейкі генерал. Вельмі цяжка мне было адбівацца, з усіх бакоў ціснулі. І кіно па Чаргінцу ўсё ж знялі! Праўда, гэта ўжо адбылося без мяне, я сышоў з кінастудыі.

**– Ці сочыце вы за творчасцю маладзейшых? Ці ёсць імёны, якія вам запомніліся?**

– Запомніўся Андрэй Горват і яго «Радзіва Прудок». Не толькі таму, што ён мой зямляк з Калінкавіцкага раёна. Для мяне ён – з'ява, у ягонай кнізе праявіліся і інтэлект, і культура пісьма. Што да маладой паэзіі, то тут сітуацыя больш сумная. Маладыя вершапісцы зацыклены на сваім унутраным свеце, лёгка прыроўніваюць сябе да вялікіх. Кнігавыданне цяпер пастаўлена на канвеер, маеш грошы – выдадуць што заўгодна, нават не рэдагуючы. Раней усё ж адносіны да маладых былі іншыя. Нас ведалі, намі апекаваліся старэйшыя. Цяпер жа мы падзелены стараннем улады, мы не бачым і не чуем адзін аднаго. І гэта наша бяда. Сёння пра што хочаш пішы, што хочаш выдавай – свабода творчасці. І ў гэтай свабодзе многія адчулі сябе геніямі. А гэта – простая дарога ў Навінкі.

**– У вас у Дудутках даволі шмат зямлі. Апрацоўваеце?**

– Да апошняга часу ў мяне быў трактарок – матаблок. Я сам нарыхтоўваў дровы, за плугам, праўда, цяжкавата было хадзіць. Дапамагалі суседзі і сын, які прадаў кватэру ў Мінску і пасяліўся ў суседняй вёсцы. Пару гадоў таму я пасадзіў 8 сотак бульбы. Урадзіла столькі, што ўсім памочнікам хапіла, рэшту я бясплатна перадаў супрацоўнікам дудуткаўскага музея. А так у мяне штогод памідоры, гуркі, гарох, моркаўка, бурачок – свае. Жонка заўтра якраз павінна прывезці расаду.

**– А вы ў Мінск не ездзілі, каб з сябрамі юбілей адзначыць?**

– Не. Ды і тут ахвоты святкаваць не было. Нядаўна памёр мой наймаладзейшы сябра, шасцідзесяцігадовы Саша Танчынскі з вёскі Вільча Жыткавіцкага раёна. Яго называлі «начальнікам Случы», ён там кожнага бабра ў твар ведаў. Мы з сынам апошнія 20 гадоў да яго штолета ездзілі. Лепшых маіх сяброў ужо няма, няма з кім пасядзець і чарку ўзяць.

**– Нездарма ж кажуць, што лёс абкладае доўгажыхароў страшным падаткам – смерцю сяброў.**

– Так і ёсць. Не пагаварыць мне ўжо ні з Анатолем Кудраўцом, ні з Нілам Гілевічам, ні з Генадзем Бураўкіным. Калі якая бяда здарыцца – да каго кінуцца?.. З тым жа Бураўкіным мы столькі перагаварылі! І ў грыбах, і за сталом. Другога такога чалавека – апантанага Беларуссю, з дзяржаўным складам розуму, з тонкім разуменнем прыроды – я не ведаю. Мала таго, я лічу, што Бураўкін быў прадвызначаны Беларусі як кіраўнік самага высокага рангу. На жаль, наменклатура і апазіцыя сваімі адносінамі раней часу звялі яго на той свет.

**– Я жадаю вам не зважаць на вызначаны лёсам «падатак» і дасягнуць веку вашай бабулі!**

– Дзякуй, Міхась! У многім маё ўспрыманне свету ідзе ад бабулі – сялянкі Усцім'і Говар, якая ўсё жыццё пражыла на адным месцы. І ад дзеда Панаса, якога я не паспеў пабачыць. Бацька расказваў – сядзіць дзед вечарам з гасцямі за сталом. Прыбягаюць дзеці: «Дзед Панас, у вас зладзеі на падворку, ужо хамуты пабралі!» Дзед толькі зірнуў у акно і нешта прашаптаў. Ужо і госці сышлі, і зусім сцямнела, а зладзеі з хамутамі на шыі ходзяць па двары. Нарэшце дзед выйшаў: «Ну што, хлопчыкі, будзеце яшчэ красці?» Тыя – на калені ўпалі, бажыліся, што ніколі нічога чужога не зачэпяць. Ведаў дзед слова магічнае, што над людзьмі сілу мела... Я ж фаталіст па натуры. Што наканавана, тое павінна адбыцца. Але адчуваю – пра сыход мне яшчэ рана думаць. Яшчэ пажывём.

**Міхась СКОБЛА.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!



# «Отец на кислородной маске…»

*На днях в соцсетях сыновья заслуженного артиста Беларуси Геннадия Забары распространили сообщение о том, что их отцу срочно нужен переболевший коронавирусом донор плазмы крови группы «1+». Музыкант сейчас находится в 6-й больнице Минска с двусторонним коронавирусным воспалением легких. Его состояние оценивается как средне тяжелое. «Народная Воля» поинтересовалась, нашли ли донора и как сейчас состояние известного артиста?*

– До недавнего времени вообще было очень трудно получить информацию о состоянии отца и о том, как его лечат, – *говорит* ***Павел Забара*** *"Народной Воле"*. – Врачи говорят "мы действуем по инструкциям" и больше ничего. Мы кинули клич о доноре и вышли на главного врача 6-й клиники. Он сказал, чтобы мы не заморачивались по поводу донорства, потому что есть база всех переболевших коронавирусом и, если понадобится, этих людей найдут.

Потому что у донора должны совпасть очень многие пункты: время, которое прошло после болезни, определенные должны быть иммуноглобулины и еще куча всего. Главврач сказал, что будет консилиум и они решат, нужен ли отцу донор.

**– Отец в реанимации?**

– Нет, в обычной палате. Но у него тяжелая форма двусторонней пневмонии. Его лечат препаратом от малярии в совокупности с антибиотиками – всего ему дают 9 или 10 лекарств. Сказали, что лечат всеми возможными способами.

**– А он давно в больнице? Как вообще выяснилось, что у него коронавирус?**

– В больнице отец со вторника. Но это целая история! У него в середине марта заболел зуб, распухла щека. Он поехал в стоматологическую клинику, ему вырвали зуб, но оказалось, что не тот, который беспокоил… Опухоль стала еще больше, гной пошел в мозг. Его положили в больницу, вырвали второй зуб, попросту говоря, пробили череп, промыли все внутри. Поставили дренаж и выписали через четыре дня. Он сердечник, ему стало плохо, он пошел к врачу, и его положили в больницу. А там были люди с коронавирусом.

**– Мда…**

– А у отца астма, диабет… Он лег из-за сердца, а получилось вот так… Но его выписали, потому что анализ на коронавирус был отрицательный, мы его отвезли на дачу на самоизоляцию, в пятницу он должен был пойти к врачу на осмотр, а в субботу у него поднялась температура под 40. Я его в понедельник отвез во 2-ю больницу, его положили, а во вторник уже перевели в 6-ю клинику.

Отцу тяжело говорить – одышка, он на кислородной маске.

**– От всей души желаю, чтобы у вас были только хорошие новости…**

– Будем надеяться. Сейчас я по крайней мере знаю, каково состояние отца, как его лечат. Но в Польше, например, где многие уже переболели, лечат плазмой крови переболевших с антителами. В России тоже. У нас, как я понял, в основном используют токсичный препарат от малярии и антибиотики. Но в нашем РНПЦ трансфузиологии и медицинских биотехнологий, который собирает и отправляет плазму по запросам больниц (по состоянию на 22 апреля), по непонятным мне причинам банка плазмы недостаточно. Возможно, это связано со слабым информированием населения, возможно, с тем, что решение собирать плазму для больных коронавирусом было принято совсем недавно.

Мне кажется, будет правильно, если все, кто выработал иммунитет к COVID-19, как на возмездной, так и на безвозмездной основе станут донорами крови. Это поможет спасти не одну жизнь!

**Марина КОКТЫШ.**

***ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА***

*Геннадий Забара – один из ведущих кларнетистов Беларуси, лауреат всесоюзного и международного конкурсов, заслуженный артист Республики Беларусь. Сольной исполнительской деятельностью занимается более 25 лет, с 1986 года – солист Белгосфилармонии. В 1989 году создал уникальный по составу ансамбль «Минский квартет кларнетов», который известен сегодня как Ансамбль кларнетистов Государственного концертного оркестра Республики Беларусь. Сотрудничает с ансамблем солистов «Классик-Авангард».*

*Геннадий Забара – доцент Академии музыки. Среди его учеников – лауреаты и дипломанты международных и республиканских конкурсов, артисты ведущих оркестровых коллективов Беларуси.*

МАРШРУТЫ

## Пока выехать нельзя…

*В связи с продолжением пандемии коронавируса COVID-19 Украина и Литва вновь продлили действие карантинных мероприятий, включая запрет на въезд иностранцев (за исключением водителей грузового транспорта, дипломатов и некоторых других категорий граждан).*

Украинская граница закрыта до 11 мая. В Литву иностранцы не смогут въехать до 11 мая, в Польшу – до 3 мая, в Латвию – до 12 мая.

В связи с карантином дипредставительства Польши, Литвы (а также визовые центры этих стран) и Латвии прекратили прием документов на визы. Визовые центры Литвы в Минске и Гродно принимают документы у водителей, осуществляющих грузоперевозки.

Беларусь свои границы не закрывала, однако въезжающие в страну обязаны две недели находиться на самоизоляции.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Германия начинает испытание вакцины на людях

*Федеральный институт Германии по разработке вакцин сообщил, что получил разрешение на клиническое испытание возможной вакцины от COVID-19 – BNT162.*

На начальной стадии испытаний различные дозы вакцины введут 200 здоровым людям в возрасте от 18 до 55 лет.

На второй стадии вакцину испытают на людях из групп риска.

В разработке вакцины участвовали компания Biontech из Майнца и крупная фармацевтическая компания Pfizer. Впоследствии клинические испытания должны начаться и в США.

В институте отмечают, что это четвертый подобный прецедент в мире и что решение стало результатом «взвешенной оценки потенциальных рисков и преимуществ».

РАКУРС

# Як выглядае праца кур’ера ў Польшчы падчас эпідэміі?

*У Польшчы ўжо другі месяц пануе эпідэмія каранавіруса COVID-19. Польскія ўлады амаль адразу ўвялі каранцін. Ці можна досвед Польшчы ў змаганні з распаўсюджваннем хваробы перанесці на Беларусь? І як выглядае жыццё і праца звычайнага беларуса ў нашай заходняй суседцы?*







**Надпісы на краме: «Ад 10.00 да 12.00 прымаюцца выключна людзі сталага ўзросту 65+» і «15 чалавек – максімальная лічба асоб у краме».**



“Народная Воля” паразмаўляла са **Стэфанам Глушаковым** – беларусам, які жыве ў Польшчы 8 гадоў. Ён працуе ў Познані роварным кур’ерам. Як эпідэмія і забарона для польскіх грамадзян выходзіць з дома ўплывае на яго працу і даход?

**– Стэфан, ты працуеш дастаўшчыкам ежы на дом. Як выглядае твая праца ва ўмовах эпідэміі?**

– У маёй працы ўсё залежыць ад працадаўцы. Звычайна пачынаю я ў 12 гадзін і заканчваю ў 22. Мы дастаўляем ежу ад рэстарацыі да кліента на роварах у тэрматорбах. Наша фірма мае сталую базу кліентаў.

**– Колькі ты зарабляеш?**

– Усё залежыць ад сістэмы аплаты. У маёй фірме кур’еры маюць гарантаваную стаўку за гадзіну працы – 8 злотых і 3 злотыя за курс (што складае 4,85 беларускага рубля па курсе Нацбанка). У сярэднім я зарабляю 2500 злотых чыстымі, гэта прыкладна 1516 рублёў, альбо 589 долараў, у месяц. У Беларусі такая праца аплачваецца ў 1,5–2 разы менш – ад 800 да 1000 рублёў у месяц. Пры гэтым сярэднія кошты на такія прадукты, як хлеб, малако, мяса, яйкі, садавіна і агароднiна, у Польшчы альбо такія ж, альбо крыху меншыя.

**– Ці змянілася твая праца ў выніку эпідэміі каранавіруса? Якія эмоцыі пануюць у польскім грамадстве: паніка, страх, пачуццё недаверу ці нешта іншае?**

– Людзі сталі баяцца любых фізічных кантактаў. Таму, нягледзячы на тое, што ўсе сядзяць дома, замоў стала менш. З’явіўся феномен “бескантактнай дастаўкі”. На чэку можна прачытаць заўвагу: замову просяць пакінуць пад дзвярыма. Людзі забіраюць прадукты ў пальчатках і масках, а большасць замоў аплачваецца праз інтэрнэт.

Паколькі я працую ў прыватнай фірме, то працадаўца клапоціцца аб наяўнасці ў кур’ераў пальчатак. Напрыклад нядаўна адзін малады кліент падзякаваў мне за тое, што я быў у пальчатках, заўважыўшы: не ўсе кур’еры зараз іх носяць.

**– Як ты лічыш: ці апраўданы такія захады і ці сапраўды яны захоўваюць ад распаўсюджвання віруса?**

– На мой погляд, цалкам апраўданы! Больш за тое – у 99 працэнтах выпадкаў гэты бар’ерны метад дае амаль поўную гарантыю бяспекі ад заражэння.

**Францішак ЦЯРЭШКА.**
**Фота аўтара.**

ЗА КАДРАМ

## На беластоцкім тэлебачанні хочуць скасаваць беларускую праграму

*Беларускія арганізацыі, якія дзейнічаюць у Польшчы, выказалі свой пратэст і накіравалі ліст старшыні Рады Польскага тэлебачання* ***Мацею Лопіньскаму****.*

Інфармацыю аб тым, што перадача “Беларускі тыдзень”, якая ўжо 23 гады выходзіць на тэлебачанні TVP Białystok, больш не з’явіцца ў эфіры, днямі агучыў яе аўтар – журналіст **Мікола Ваўранюк.**

Паводле слоў журналіста, “Беларускі тыдзень” не з’явіўся ў эфіры ў сярэдзіне сакавіка з прычыны каранавіруса, і гэта выглядала цалкам натуральна. Але калі сітуацыя пачала змяняцца і Ваўранюк узяўся за падрыхтоўку чарговай перадачы, мантаж спыніў дырэктар **Яўгеніюш Шпакоўскі**.

*“Ён наўпрост сказаў мне, што прадукцыю “Беларускага тыдня” трэба вынесці па-за Польскага тэлебачання,* – канстатуе Ваўранюк. – *Прапанаваў, каб я стаў прыватным прадзюсарам і прыватызаваў праграму”.*

Ваўранюк на гэта не пагадзіўся, аргументаваўшы тым, што не зможа рабіць такую перадачу без існуючага архіва тэлебачання, тэхнічных магчымасцяў, якімі карыстаецца зараз.

Дырэктар Шпакоўскі, расказвае спадар Мікола, адказаў, што ў такім выпадку будзе шукаць прадзюсара звонку. І адна перадача, падрыхтаваная не Міколам Ваўранюком, выйшла ў эфір.

Пазней дырэктар Шпакоўскі ў інтэрв’ю Радыё Свабода запэўніў, што «Беларускі тыдзень» будзе выходзіць і ён і надалей хоча супрацоўнічаць з Міколам Ваўранюком. Маўляў, з прычыны пандэміі былі ўведзены некаторыя абмежаванні.

Тым часам беларуская супольнасць у Польшчы з недаверам паставілася да слоў дырэктара Шпакоўскага і звярнулася з лістом да кіраўніка Рады Польскага тэлебачання **Мацея Лопіньскага**.

У лісце, адрасаваным на яго імя, прадстаўнікі беларускіх арганізацый у Польшчы нагадваюць, што менавіта беларуская супольнасць у свой час сабрала больш за 10 тысяч подпісаў, з тым каб было адкрыта тэлебачанне ў Беластоку, якое асвятляла б шматкультурнае жыццё нацыянальных меншасцяў на Падляшшы. І гэта прапанова была падтрымана кіраўніцтвам Польскага тэлебачання.

Аўтары ліста звяртаюцца да кіраўніка Рады Польскага тэлебачання з просьбай разабрацца ў сітуацыі, якая склалася, і выказваюць надзею, што беларускія праграмы не знікнуць з эфіру TVP Białystok.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

В ФОКУСЕ

## Румыния вводит масочный режим

*Президент Румынии Клаус Йоханнис заявил, что ношение защитных масок в общественных местах станет обязательным.*

По его словам, с 15 мая в Румынии будет отменен ряд ограничений на передвижение граждан, однако ношение масок станет обязательным.

*«Мы решили, что после 15 мая каждый будет обязан носить защитные маски в закрытых общественных пространствах и при использовании общественного транспорта. Эта мера не будет ограниченной во времени. Мы сможем отказаться от масок, возможно, в следующем году, когда пандемия будет под контролем»,* – заявил Йоханнис, который выступал в защитной маске.

Румыния не будет продолжать ограничения передвижения граждан.

*«До 15 мая ограничения останутся в силе. Оставайтесь дома. После этой даты мы отменим некоторые ограничения, однако жизнь не вернется к норме»,* – заявил президент Румынии.

В Румынии, по последним данным, коронавирусом заразились около 10 тысяч человек, более 500 умерли.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## 78 миллионов евро собрали на штрафах!

Румыния менее чем за месяц выписала 200 тысяч штрафов людям, которые не выполняли ограничительные меры, направленные против распространения коронавируса.

Объем средств, которые удалось взыскать через штрафы с 24 марта по 19 апреля, составляет 78 миллионов евро. Сумма соответствует объему корпоративного налога на прибыль в Румынии в феврале 2020 года.

Румыны должны заполнить официальную форму перед выходом из дома (аналогичные правила действуют в Италии и Франции). При проверке полицией или военными они должны предъявить форму вместе с удостоверением личности.

Нарушителей карантина в Румынии ждет штраф в размере от 2 тысяч (более 400 евро) до 20 тысяч леев (более 4000 евро). Средняя месячная зарплата в стране составляет около 3 тысяч леев (620 евро).

В других европейских странах также было оштрафовано большое количество граждан. За аналогичный период Франция и Испания выписали около 800 тысяч и 500 тысяч штрафов соответственно за нарушение карантина.

Напомним: в Риме правоохранители оштрафовали итальянку за выгул черепахи.

КНІГАПІС

## Беларуская мара пра мора

*На вокладцы кнігі “Мара пра мора”, што выйшла нядаўна ў выдавецтве “Кнігазбор”, стаіць незвычайнае імя – Ванда Марцінш душ Рэйш.*

Можна падумаць, што гэта творы нейкага замежнага аўтара. Насамрэч Ванда – беларуска, нарадзілася ў 1959 годзе ў вёсцы Муляры Пастаўскага раёна, на беларуска-літоўскім памежжы. Пасля заканчэння Віцебскага педінстытута жыла ў Вільнюсе, працавала настаўніцай у школе.

На пачатку 1990-х выехала на сталае жыхарства ў Вялікабрытанію, пазней перабралася ў Партугалію, дзе выйшла замуж. Вандруючы па свеце, вывучыла англійскую, іспанскую і партугальскую мовы, што дазваляе ёй займацца перакладамі.

Цяпер пісьменніца зноў жыве ў Вільнюсе. “Мара пра мора” – гэта вершы пра марскую экзотыку, якія цягам дзесяцігоддзяў пісаліся ў шуфляду.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

У СОСЕДЕЙ

# Украина: 45-й день карантина…

Закрыты школы, детские сады, рынки, магазины (за исключением продовольственных), предприятия бытового обслуживания, развлекательные и общепитовские учреждения. Многие организации либо уволили своих работников, либо отправили в неоплачиваемые отпуска. Премьер-министр Денис Шмыгаль заявил, что таких людей более 2 млн человек.

В Киеве, Харькове, Днепре не работает метро. Маршруты общественного транспорта в украинских городах значительно сокращены, а воспользоваться его услугами может ограниченное количество людей по специально выданным пропускам. Железнодорожное и авиасообщение, передвижение маршрутными автобусами внутри страны и за ее пределы остановлено. Посещение парков, скверов, пляжей, детских и спортивных площадок под запретом. Выход на улицу без маски расценивается как нарушение карантина и влечет штраф от 17.000 гривен (около 630 долларов США).

Экономическая деятельность в стране замерла. Когда отменят карантин, пока не знает никто. Украинские чиновники от медицины ожидают некоего пика заболевания, но никак не могут определиться, когда он будет, и точно сформулировать, какие показатели заболеваемости считать пиком. Сначала объявляли, что пик наступит 14 апреля, потом убеждали, что он из-за карантина сместился на 10 дней, но обязательно придет 24 апреля. А сейчас новая вводная: вся страна ждет 4–5 мая. Возможно, пик все-таки придет, но гарантии, что он будет именно в эти дни, никто не дает. Все замерли в ожидании…

На фоне этого ожидания карантин в очередной раз собираются продлить – как минимум до 11 мая. Насколько оправдана двухмесячная изоляция для значительного количества граждан, лишающая их возможности зарабатывать себе на жизнь, можно будет судить только по прошествии некоторого времени.

По своей сути карантин – это не панацея от коронавируса. Он лишь ограничивает и притормаживает его распространение, но ждать прекращения заболевания можно бесконечно долго. А это плохой вариант для страны со слабой экономикой, в которой большинство людей живет от зарплаты до зарплаты.

Карантин действенен, когда параллельно с ограничением передвижения граждан в стране соответствующие государственные структуры занимаются активным выявлением вирусоносителей, их изоляцией, отслеживанием лиц, контактировавших с инфицированными, с последующим обязательным тестированием. Но украинские власти отказались от тотального тестирования групп риска. Разработали по опыту Италии и Испании критерии, которые не подразумевают выявления потенциальных носителей, а только фиксацию обратившихся за помощью с наличием очевидных признаков, и то только в том случае, если пациент является контактом официально подтвержденного больного.

Известно, что болезнь часто протекает бессимптомно и по внешним признакам сложно разобрать, инфицирован ли пациент коронавирусом. Предварительного тестирования всех поступающих в стационар пациентов нет. Индивидуальных средств защиты для всего медперсонала недостаточно, или они плохо используются, как следствие: сегодня в Украине каждый пятый инфицированный коронавирусом – это медработник.

Цепочка распространения вируса в стране выглядит следующим образом. В первую очередь заболели люди, которые привезли инфекцию из-за границы. Они заразили своих близких, друзей, коллег. Далее вирус попал в медучреждения. Следующим источником массового инфицирования стали места культового богослужения: церкви, молельные дома, синагоги, монастыри.

Только в Киево-Печерской лавре порядка ста инфицированных монахов и священнослужителей! Коронавирусом заражено все руководство российской церкви: предстоятель Украинской православной церкви Московского патриархата митрополит Онуфрий, митрополит Антоний, ректор Киевской духовной академии при Киево-Печерской лавре епископ Сильвестр, а также главный спонсор УПЦ олигарх Вадим Новинский.

После 6 апреля, когда требования к карантину существенно ужесточились, первый заместитель министра здравоохранения, главный санврач Украины Виктор Ляшко разъяснял, почему был введен запрет на посещение парков: *«К сожалению, мы еще не можем дорасти до того уровня сознания, когда предлагают воздержаться от контактов – и мы будем воздерживаться от контактов. Только суровые ограничительные меры позволяют нашим людям воздержаться от контактов и прервать цепочку инфекции».*

Китайские врачи еще в начале марта предостерегали от своих ошибок европейских коллег. Глава отделения интенсивной терапии в больнице Медицинского колледжа Пекинского союза Ду Бин рассказывал, что главной их ошибкой являлось недостаточное внимание к предварительным тестам: *«В отличие от предыдущих пандемий новый коронавирус на начальной стадии вызывает у некоторых инфицированных лишь легкие симптомы или вообще их не проявляет. Это означает, что люди могут неосознанно распространять болезнь. Тест, тест и еще раз тест! Иначе я просто понятия не имею, как выявлять подозрительные случаи и изолировать ближайшее окружение».*




Врач из Китая считает, что индикатором компетентности властей и органов здравоохранения в разных странах становится именно тестирование на COVID-19. Но в Украине чиновники от медицины считают, что они достаточно тестируют. Хотя Беларусь, которая по численности населения в четыре раза меньше Украины, опережает ее по количеству протестированных граждан: 122.543 против 72.296.

Главный санитарный врач Виктор Ляшко заявляет, что в Украине целенаправленно не проводят регулярного тестирования медиков, потому что это якобы создает обманчивое ощущение безопасности. Но в начале марта этот чиновник то же самое говорил о ношении медицинских масок: мол, они не спасут от коронавируса, более того, их ношение *«создает фальшивый обман своей защиты и не предотвращает или не позволяет использовать другие эффективные методы профилактики ОРВИ».* Ровно через месяц он сделал кардинально противоположное заявление, объясняя гражданам, почему они обязаны носить маски практически везде, снимая только у себя дома, в том случае, если в квартире нет инфицированных.

Хаотичные действия чиновников, их противоречивые высказывания не добавляют людям спокойствия и уверенности.

И самое интересное, что, несмотря на ограничения, количество инфицированных в Украине продолжает расти, хотя и не взрывными темпами. Карантин затягивается на неопределенное время, и у людей остро встает вопрос: за счет каких средств завтра кормить семью?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# ВІРТУОЗ

*Мінуў год, як заўчасна адышоў у вечнасць Юрый БЛІНОЎ – беларускі піяніст, якому апладзіравалі аматары класічнай музыкі ў самых славутых залах свету. Яго сэрца спынілася 21 красавіка 2019 года за некалькі метраў ад фінішу паўмарафона ў Гомелі. 43 гады, якія выдзеліў яму лёс, і былі падобны на марафон. Пакуль білася сэрца музыканта, спыніць яго было немагчыма…*

## У Драгічын – хоць пешшу

Ужо ў раннім дзяцінстве ў Юрыя выявілася незвычайная цяга да музыкі. Любімым заняткам было слуханне радыё і вінілавых пласцінак. За гэтай справай не заўважаў, як мінаў дзень. Асабліва падабалася яму песня «День Победы». Не вымаўляючы як след некаторых гукаў, ён ужо тады шмат спяваў.

З часам станавілася відавочным: у Юрыя ёсць музычныя здольнасці, якія былі ўласцівы яго продкам і па бацькоўскай, і па мацярынскай лініях. Абсалютным музычным слыхам валодалі драгічынская бабуля Ганна і дзед Юрый з расійскай Вяткі, у гонар якога, дарэчы, хлопчыка і назвалі. Прабабуля з бацькоўскага роду Лукія Акімаўна была рэгентам царкоўнага хору. Тое, што гэта ўнікальны музычны дар, кажа маці Юрыя Блінова Ларыса Гаўрылаўна, стала зразумела крыху пазней.

З трох да чатырох гадоў маленькі Юра жыў разам з бабуляй у Драгічыне, ці Дарагічыне, як называлі гэты правінцыйны гарадок старыя жыхары. Хутчэй за ўсё, назва паходзіць ад слова «дарога», але Юрыю Блінову гэты маленькі і ўтульны гарадок быў вельмі *дарагі*. Ён сябе лічыў найперш палешуком. Кожнае лета разам з братам на ўсе канікулы прыязджаў да бабулі, якая вельмі чакала ўнукаў і многае ім дазваляла. Ларыса Гаўрылаўна часам рабіла заўвагі, на што бабуля катэгарычна адказвала: «Бацькі ёсць у дзяцей, каб іх выхоўваць, а бабулі – каб песціць».

Перад адказнымі канцэртамі музыкант прыязджаў у Драгічын. Цішыня, спакой, палескі аўра настройвалі Юрыя на патрэбны лад. Не менш важнымі былі іншыя «вітаміны»: бабуліны мудры позірк, ласкавая ўсмешка, развагі і парады. Дарэчы, сувязь паміж Ганнай Карпаўнай і Юрыем была звышнатуральная. Калі жанчына памерла, унук-піяніст быў на конкурсе ў Польшчы. Яму ніхто не паведамляў аб яе смерці. Прыехаўшы з-за мяжы, Юрый заспеў маці ў калідоры. «Я ўсё ведаю», – скрушна прамовіў ён.



## Суперздольнасці

У сярэдняй школе з музычным ухілам, куды Юрый пайшоў у першы клас, маладая настаўніца музыкі неяк прызналася маці: «Вашаму сыну патрэбны іншыя педагогі. Ён вельмі адораны ў музыцы». Маці адвяла яго на праслухоўванне, і з другога класа Юрый Блінoў займаўся ў сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Так у яго жыцці з'явіліся прафесійныя педагогі: спачатку Інэса Іванаўна Барташэвіч, потым Людміла Сяргееўна Шаламенцава.

Дзякуючы добра развітаму аналітычнаму мысленню, Юрый таксама мог дасягнуць вялікіх поспехаў у матэматыцы. У пятым класе настаўніца раіла бацькам пераказаць сына ў мінскай школе №50, дзе паглыблена вывучаліся дакладныя дысцыпліны. Юрый быў непахісны: «Музыка – гэта маё жыццё».

Уже ў музычнай школе пачалася канцэртная дзейнасць. У 1986 годзе падчас Дзён беларускай культуры ў Вялікай зале Ленінградскай філармоніі Блінoў выканаў 2-і фартэпіянны канцэрт Д.Шастаковіча ў суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР пад кіраўніцтвам Юрыя Яфімава.

## Амерыка дала раяль і ўпэўненасць

Скончыўшы Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі і магістратуру, Юрый Блінoў нейкі час працаваў салістам філармоніі. Пабываў з канцэртамі ў многіх беларускіх гарадах і музычных школах, а таксама ў Расіі. Пасля быў плённы амерыканскі перыяд.

Піяніст пражыў там з 2000-га па 2009 год. Спачатку стажыраваўся ў Тэхасе, пасля вучыўся ў дактарантуры знакамітай Істменскай школы музыкі, дзе абараніў ступень доктара музычных мастацтваў.

Звыклы да пераездаў, сустрэч з людзьмі рознага менталітэту, ён у Амерыцы адчуваў сябе на сваім месцы. Вялікім бонусам была добрая англійская мова. Блінoў быў паліглотам – ведаў французскую, нямецкую, польскую, украінскую мовы, разумеў італьянскую. Але найбольш любіў беларускую.

Амерыка надала піяністу ўпэўненасці ў сваёй дасканаласці як выканаўца і кампазітара. Харызма, прафесіяналізм Блінова, яго артыстызм прываблівалі многіх музыкантаў, у яго з'явілася шмат сяброў сярод калег у розных краінах свету. Разам з імі ён удзельнічаў у шматлікіх імпрэзах па ўсім свеце, арганізоўваў іх канцэрты ў Мінску.

Юрый Блінoў таксама сябраваў са спортам, які, з аднаго боку, разгружаў ад шалёных нагрузак, з другога – натхняў на стварэнне музычных твораў на спартыўную тэматыку. Так з'явіўся цыкл п'ес «Дэкатлон», прысвечаны беларускаму дзесяцібарцу Андрэю Краўчанку – сярэбранаму прызёру Алімпіяды-2008, канцэрт для фартэпіяна, струннага аркестра і свістка «Concerto-Krooso», прысвечаны нямецкаму футбалісту Тоні Краосу, музычная п'еса ў гонар футбольнага клуба «Крумкачы», сузаснавальнікам якога ён стаў у 2018 годзе.

У рэпертуары Юрыя было больш за трыццаць канцэртаў для фартэпіяна з аркестрам, а пералік выкананых ім сольных твораў займае пяць старонак дробным шрыфтам. Ён лаўрэат многіх конкурсаў і сапраўдны даследчык музычнай класічнай спадчыны.

За перамогу ў конкурсе ў Штатах наш слынны зямляк атрымаў чорны раяль фірмы «Стэнвэй». На жаль, так і не паспеў забраць яго на радзіму. Ды колькі такіх «планаваў, але не паспеў»! Хацеў напісаць оперу «Ладдзя роспачы» паводле легенды Уладзіміра Караткевіча, думаў арганізаваць у сваёй новай кватэры студыю, дзе будуць навучацца дзеткі і ладзіцца хатнія канцэрты, у родным Драгічыне марыў паставіць помнік Элізе Ажэшка ля бібліятэкі ды закласці платанавы парк у раёне 2-й гарадской школы, а яшчэ хацеў высадзіць магноліі каля новай царквы, што будуецца ў гонар нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай… Адну з такіх мар ён усё-такі ажыццявіў – заснаваў міжнародны конкурс маладых музыкантаў у Драгічыне "Палескі агеньчык". Пры жыцці Юрыя Блінова, які быў арт-дырэктарам конкурсу, ён быў праведзены тройчы.

А яшчэ Юрый Блінoў вельмі любіў збіраць баравікі, мог правесці займальную экскурсію па зорным небе, бегаў марафоны, шмат фатаграфаваў, гатаваў на Новы год качку, пісаў вершы і апавяданні, любіў катоў, збіраў запісы класічнай музыкі і паштоўкі з выявамі беларускіх гарадоў, на 1 красавіка дасылаў знаёмым смешныя анкеты і часта паўтараў маці, што яна – самая лепшая ў свеце…

## «Мы ўсё жыццё беглі разам»

Ларыса Гаўрылаўна была першым слухачом, галоўным крытыкам і матыватарам, сябрам, прадзюсарам, суцяшальнікам, настаўнікам па жыцці. Яна ведала ягоныя парыванні душы і клопаты, падзяляла творчыя задумкі сына, жыла яго планамі…

«Мы былі адным цэлым», – расказвае маці, якую сын часта ласкава называў «Мурык». Справа ў тым, што і маці, і Юрый, і яго малодшы брат па гараскопе Львы, якія, як вядома, з сямейства каціных. Калі з Юрам здаралася бяда, міліцыянеры, знайшоўшы ў тэлефоне надпіс «Мурык», падумаць не маглі, што гэта і ёсць самы важны чалавек у яго жыцці, а таму пазванілі жонцы Анастасіі. У шлюбе з ёю нарадзіўся адзіны любімы сын Юрыя Блінова – Міраслаў, які на наступны год пойдзе ў школу. Якую дарогу ў жыцці абярэ Міраслаў – рана думаць, але тое, што ён унаследаваў музычныя здольнасці, – бясспрэчна.

Аднойчы Юра прывёз з Амерыкі духі «Прывід оперы»: «Мурык, глядзі, што я табе прывёз!» Водар прыйшоўся маці даспадобы.

Пасля кожнага канцэрта першай фразай за кулісамі было адрасаванае маці: «Ну як?»

Ларыса Гаўрылаўна таксама была цалкам аддадзена сыну: «Ён бег – і я з ім». Хаця часам дакарае сябе за тое, што не стрымала, не спыніла… І ў той жа момант разумее: ён не мог па-іншаму. Гэта было яго жыццёвае крэда, наканаваннем, лёс.

## Прарочы сон і праблемы геніяльнага чалавека

За два дні да Юравай смерці Ларыса Гаўрылаўна прыснілася сон, які аказаўся прарочым: у вобласці сэрца яна адчувала спачатку невыносны боль, а потым там з'явілася незагойная рана…

…21 красавіка мінулага года на экалагічным марафоне ў Гомелі медыкі амаль гадзіну безвынікова праводзілі рэанімацыйныя мерапрыемствы Юрыю Блінову, які ўпаў за некалькі метраў да фінішу. Стомленае сэрца зорнага піяніста спынілася назаўжды.

Праз некаторы час Ларыса Луцэвіч, разбіраючы сынавы запісы, знайшла вельмі інтымны верш, напісаны яго каліграфічным почыркам годам раней. У ім – прадчуванне заўчаснага канца…

Як сын ён быў ідэальны, кажа Ларыса Гаўрылаўна. Ён многаму яе навучыў: і прадказваць надвор'е, і разбірацца ў каве, і разумець музыку, і будаваць адносіны з замежнымі гасцямі, цікавіцца футболам, ведаць свае карані, берагчы палескі дыялект і паважаць сябе...

## «Пакінь мне кавалак «Кіеўскага»

Апошні дзень дома Юрыя Блінова быў падобны на іншыя. Захварэў Міраслаў, і бацька адвёз яму лекі. Адмяніліся занятки з кітайскай вучаніцай, ён крыху адпачыў і паехаў на сустрэчу са сваімі сябрамі-паэтамі. Пасля па тэлефоне паведаміў маці, што ўвечары едзе ў Гомель, дзе з камандай «Крылы анёлаў» 21 красавіка будзе ўдзельнічаць у экалагічным забегу. Быў не ў стопрацэнтнай фізічнай форме – за тыдзень перад тым прастудзіўся.

Вечарам нават гарбаты з мамай не папілі з любімым «Кіеўскім» тортам, кавалак якога Юра прывёз з сустрэчы. Папрасіў: "Пакінь мне крыху, прыеду з Гомеля – даем". Ён спяшаўся адказаць на пісьмы, яна збірала сына ў дарогу.

Абмеркавалі бліжэйшыя планы: 29 красавіка быў запланаваны канцэрт «Маладыя віртуозы» ў канцэртнай зале «Верхні горад», на пачатку мая – праслухоўванне ўдзельнікаў на конкурс «Руская музыка», у сярэдзіне мая – канцэрт і майстар-класы ў Парыжы …

Аднак 21 красавіка сэрца Майстра спынілася назаўжды. Але музыка ў памяць аб ім будзе гучаць так, як запланаваў ён сам, – у выкананні маладых віртуозаў Беларусі.

**Хрысціна АБРАМОВІЧ.**
**Драгічын.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# Час дапамагаць: выручка ад новай серыі гадзіннікаў «Луч» пойдзе на дапамогу беларускім медыкам

*Мінскі гадзіннікавы завод «Луч» запусціў у продаж серыю гадзіннікаў «Час дапамагаць»: усе атрыманыя сродкі пойдуць на дабрачынны рахунак Міністэрства аховы здароўя дзеля падтрымкі медыкаў.*

На цыферблаце гадзіннікаў выгравіраваны надпіс: *«Мая дапамога ўрачам супраць COVID-19»*. На заднім вечку корпуса вытворца змясціў словы падзякі медыцынскім работнікам на 17 мовах. Акрамя беларускага «дзякуй», там можна знайсці англійскае «thank you», украінскае «дякуємо», французскае «merci», польскае «dziękuję» і іншыя варыянты. Латуневы корпус дапаўняе яркі чырвоны нейлонавы раменьчык, які стане адметным знакам неабыякавага ўдзельніка акцыі. Мадэль устойлівая да ўздзеяння вільгаці: гадзіннік не баіцца кропель дажджу і пырскаў да мыцця рук.

*«Выпускам гэтых гадзіннікаў мы хочам сказаць «дзякуй» медыцынскім работнікам, якія ў гэты няпросты час ратуюць нашы жыцці. Мы назвалі мадэль «Час дапамагаць». Зараз той час, калі многія беларусы імкнуцца ўнесці свой уклад у дапамогу медыкам: хтосьці шые ахоўныя маскі і касцюмы, хтосьці рыхтуе і перадае гарачыя абеды, нехта ладзіць дабрачынныя канцэрты. Гэтыя гадзіннікі – яшчэ адна магчымасць матэрыяльна дапамагчы нашым урачам, а таксама напамін для нас, што пры кожным руху стрэлак цыферблата медыкі рызыкуюць сваімі жыццямі, каб захаваць нашы»*, – адзначае арт-дырэктар Мінскага гадзіннікавага завода **Іван Краўчэня.**

Для Мінскага гадзіннікавага завода гэтая дабрачынная акцыя – не першая ў перыяд каранавіруснай эпідэміі. У сакавіку «Луч» адгукнуўся на запыт аб дапамозе ад медыкаў 4-й гарадской клінічнай бальніцы імя М.Я.Саўчанкі і пералічыў сродкі на закупку шматразовых ахоўных медыцынскіх касцюмаў. Таксама, калі заводу стала вядома, што інфекцыйная бальніца мае патрэбу ў аснашчэнні палат насценнымі гадзіннікамі, неабходная іх колькасць была перададзена медыцынскай установе.

Гадзіннікі мадэлі «Час дапамагаць» ужо даступны для заказу на афіцыйным сайце Мінскага гадзіннікавага завода. Кошт – 69 рублёў.

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# У хоккеиста Дмитрия Мелешко официально подтвержден коронавирус

*Он в больнице. Жена и двое сыновей сдали анализы на COVID-19*

*«Игрок президентской хоккейной команды Дмитрий Мелешко действительно госпитализирован с диагнозом «пневмония». Получен положительный результат теста на COVID-19. Дмитрий заболел спустя примерно неделю после окончания любительского чемпионата Беларуси по хоккею, когда вся команда находилась в отпуске»*, – сказала ria.ru пресс-секретарь Александра Лукашенко **Наталья Эйсмонт**.

На вопрос, сдавал ли тест на коронавирус глава Беларуси, Эйсмонт сказала, что сейчас в этом нет необходимости: *«Президент не был и не будет уходить в изоляцию, удаленку и прочее»*.

*«Да, у моего мужа коронавирус*, – подтвердила информацию жена хоккеиста **Надежда Мелешко**. – *Почему-то в СМИ об этом стали писать, когда он еще не знал результата анализа. Накаркали...*

*Сейчас он находится в больнице. В целях моей безопасности он стал жить отдельно уже давно, когда почувствовал слабость. Пару дней была невысокая температура, потом вроде стало легче, радовались, думали – вернется домой. На следующий день вечером поднялась температура до 37,8, и пропало обоняние... Исчезновение обоняния – первый симптом коронавируса.*

*Мы с детьми чувствуем себя хорошо, сегодня сдали анализ на COVID-19, ждем результат...»*



Надежда Мелешко борется с онкологическим заболеванием и ведет дневник в «Инстаграме». Сейчас она проходит курс химиотерапии. *"Будут ли у меня продолжать химиотерапию – большой вопрос"*, – говорит Надежда.

*«30 декабря 2019 года я нащупала уплотнение в груди*, – откровенно рассказывала Надежда. – *Паниковать не стала, так как три месяца назад была на УЗИ и все было хорошо. После Нового года сразу же побежала проверяться. 8 января узнала, что у меня рак груди. Третья стадия.*

*Почему не было видно на УЗИ? Я проверялась каждые полгода. Но этот вид опухоли имеет агрессивный, быстроразвивающийся характер. Он, гад, успел проникнуть в лимфоузлы.*

*Как я? Уже нормально. По жизни я оптимист и всегда верю в самое лучшее! Настроена только на положительный исход!*

*Впереди у меня тяжелый год борьбы, и это часть моей жизни, которую невозможно скрыть. Я пройду этот путь и стану сильнее. Мое сердце так же наполнено любовью, нет у меня злости и обиды на жизнь, наоборот – я стала ее ценить еще больше! Если мне послано такое испытание, значит, я должна его пройти.*

*Я буду жить ради своих детей, своей семьи, близких, родных, друзей, они, кажется, переживают больше, чем я сама. Мои дети всё знают, мы никогда не обманывали их, говорим, как есть. Они знают, что эта болезнь сейчас хорошо лечится и мама выйдет победителем...»*

**Алина ВЕТРОВА.**

